# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1516) ГОД XXX БЕЛАСТОК 2 ЧЭРВЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл




Мітынг распачаўся ля помніка Героям Беластоцкай Зямлі.

# ДРУЖБА І МІР

З нагоды 40-й гадавіны з дня Перамогі над гітлераўскай Германіяй адбыўся ў Беластоку 9 мая г.г. вялікі мітынг дружбы і міру, у якім прынялі ўдзел шматлікія дэлегацыі ад Гродзенскай вобласці БССР і Савецкай Літвы.

Паўтысячную дэлегацыю Гродзеншчыны складалі ў першую чаргу працаўнікі розных прадпрыемстваў і ўстаноў горада Гродна, а таксама жыхары Гродзенскага, Бераставіцкага, Мастоўскага, Свіслацкага і Шчучынскага раёнаў. Дэлегацыю ўзначальвалі: II сакратар Гродзенскага абкома КПБ — Іван Машко і старшыня аблвыканкома — Мікалай Калацэй.

Пасля ўрачыстага прывітання на граніцы ў Кузніцы прадстаўнікі Гродзеншчыны спецыяльнай аўтакалонай накіраваліся ў Беласток. Па дарозе сардэчна віталі іх дзеці і дарослае насельніцтва Кузніцы, Саколкі, Васількова і вёсак на дарозе праезду гэтай аўтакалоны.

Мітынг у Беластоку распачаўся ля помніка Героям Беластоцкай Зямлі ўрачыстай паверкай загінуўшых салдат Польскага Войска і Савецкай Арміі на шматлікіх франтах II сусветнай вайны. Урачыстасць вёў маёр Людовага Войска Польскага — Пётр Лапінскі. Затым прадстаўнікі Беласточчыны, Гродзеншчыны і Літвы ўсклалі вянкі і кветкі ля гэтага помніка.

Моцныя словы аб нашай супольнай волі рашуча змагацца за дружбу і мір прагучалі ў час шматлюднага мітынгу, які крыху пазней праходзіў у Беластоцкім цэнтральным парку. Прасторны амфітэатр запоўніўся да апошняга месца.

Мітынг закончыўся багатай мастацкай часткай у выкананні аб'яднаных вучнёўскіх калектываў з беластоцкіх пачатковых і ся-

(Працяг на стар. 6)

Дочачка мая, дачушка,
свет трывогі, свет красы!
Пахнуць сонейкам
у стужках
ільняныя валасы.

Пахнуць рукі-ручаняты
ветрам, краскамі, зямлёй,
ззяюць вочы-вачаняты
валашковай чысцінёй.

Лета сёмае мінае.
Ты маленства не забудзь.
Кім ты будзеш, я не знаю,
Толькі будзь.

**Васіль Жуковіч**

# Агляд у Орлі

24 красавіка г.г. адбыліся ў Орлі гмінныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу „Сатыра і рэчаіснасць у беларускай паэзіі і прозе“ і конкурсу „Беларуская песня-85“ для школьнай моладзі. Арганізатарамі агляду быў гмінны аддзел БГКТ у Орлі.

Усіх сабраных у святліцы ГОКу прывітаў інспектар асветы і выхавання Анатоль Мартыновіч. Удзельнікам пажадаў удалых выступленняў, а сабраным прыемных уражанняў. Дэкламатарскі конкурс пераплятаўся з песенным. Такім чынам агляд стаўся больш разнастайным і багацейшым.

У дэкламатарскім конкурсе бралі ўдзел вучні з усіх школ Арлянскай гміны ў ліку 18 чалавек, а беларускую песню выканала 5 салістаў, 2 дуэты і 1 хор. Удзельнікі агляду былі з розных класаў. Узровень, культура слова маленькіх, як і старэйшых аднолькавая: яны добра валодаюць беларускім словам, відаць, што любяць спяваць беларускія песні.

Журы складалася з настаўнікаў беларускай мовы з гмінных школ. Яно доўга разважала, каго накіраваць на цэнтральны агляд. Аднак усе былі згодныя, што вучаніца з пачатковай школы ў Крывой Івона Іванюк сваёй дэкламацыяй і паводзінамі на сцэне захапіла ўсіх; і ёй прызналі I месца на гмінным аглядзе. З ёю ў Беласток паедзе яшчэ сем чалавек.

Што датычыць агляду беларускай песні, то сярод салістаў: I месца заняў вучань пачатковай школы ў Пашкоўшчыне — Мірaслаў Пракапюк, які паклаў на сваю мелодыю верш Сакрата Яновіча з п'есы „Люцынка-інжынерыха“ і гэтым захапіў сабраных.

Івона Іванюк і Уладзіслаў Сахарчук з Крывой занялі першае месца ў дуэтах. Прыгожа спявае таксама хор з Пачатковай школы ў Орлі. Журы аднагалосна выказалася за накіраваннем усіх удзельнікаў конкурсу „Беларуская песня — 85“ у Орлі на цэнтральны агляд. Роднай песні ніколі не замнога!

Пераможцы агляду атрымалі каштоўныя ўзнагароды і дыпломы, а іх сябры — кніжныя падарункі.

Удзельнікі агляду доўга будуць успамінаць свае выступленні, а мы жадаем ім удачы на аглядзе ў Беластоку.

**Ян Добаш**

## НА МЯЖЫ

# АБ ШЧАСЦІ

Чым жа з'яўляецца гэта жар-птушка, якую людзі называюць шчасцем? Споўненай кар'ерай? Падарожжамі па свеце? Прыгожай жонкай? Некалькімі каханкамі? Мяшком грошай?

Істотай чалавечай натуры з'яўляецца імкненне да змены існуючага стану рэчаў, зразумела, змены на лепшае. Праўда, ёсць рэлігійныя секты, якія прапагуюць ідэю поўнага задавальнення існуючым станам рэчаў. Аднак агрмадная большасць людзей усё жыццё імкнецца да чагосьці новага. Наогул людзі рознага тыпу намеры і планы рэалізуюць пры дапамозе штодзённых дзеянняў, штодзённай працы і ахвярнасці. Зразумела, што такія асобы змяняюць сваё жыццё вельмі нязначна і павольна. Іх сёння пераважна падобнае на ўчора, а заўтра — на сёння. Патрабуюць яны цэлых месяцаў, а нават гадоў, каб заўважальна змяніць характар свайго жыцця.

Людзі гэтай катэгорыі ўсяму дасягнутаму абавязаны выключна сабе. Іх павольнае ўзбагачэнне не адбываецца коштам іншых, значыць, не мае эгаістычнага, а тым болей — драпежніцкага характару.

Аднак ёсць людзі і зусім іншага тыпу. Такія, аб якіх іншым гавораць, што яны ідуць да вызначанай мэты па трупах. Яны свае намеры і планы здзяйсняюць не шляхам павольнай працы, а шляхам камбінацый, эгаістычнага выкарыстоўвання сілы і ўменняў іншых, падпарадкавання ці яўнай эксплуатацыі, ашуканства або і яўнага грабежніцтва.

Шматлікім з такіх людзей удаецца на працягу многіх гадоў весці свае драпежныя практыкі. А ёсць і такія, якія ўсё жыццё беспярашкодна жывуць з чужой крывёй.

Мабыць, усе імкненні — і тых справядлівых, і тых недобрасумленных — якраз і з'яўляюцца для іх шчасцем. А разуменне шчасця заўсёды мела і будзе мець індывідуальны характар. Можа быць так, што адна і тая ж сітуацыя ў разуменні аднаго чалавека з'яўляецца шчасцем, а ва ўспрыняцці другога — сапраўдным няшчасцем. Некалькі гадоў назад я размаўляў з жанчынай, якая зарабляла тады чатыры тысячы злотых. У пэўным моманце яна сказала: „Я была б шчаслівая, калі б зарабляла пяць тысяч, я ж стала б паняй". Пасля гэтага я сустрэўся з чалавекам, які зарабляў у месяц некалькі дзесяткаў тысяч злотых. Чалавеку гэтаму я паставіў наступнае пытанне:

— Як ты ўспрыняў бы сітуацыю, у якой зарабляў бы ў месяц пяць тысяч злотых?

— Не ўяўляю сабе такой сітуацыі. Было б гэта для мяне сапраўдным няшчасцем. Я б стаў жабраком.

З гэтага трэба зрабіць вывад, што кожны чалавек мае сваю ўласную мерку на шчасце.

Найбольшы парадокс, аднак, заключаецца ў тым, што ўсялякая споўненая мара, якая атаясамлівалася пачаткова са шчасцем, перастае быць ім, калі станецца фактам. І таму, калі я некалькі тыдняў назад сустрэў успомненую вышэй жанчыну і, даведаўшыся ад яе аб тым, што яна зарабляе сёння каля дзесяці тысяч злотых, сказаў, што яна, мабыць, поўнасцю шчаслівая — тая махнула рукой і сказала: „Якое там шчасце, каб хоць яшчэ з пяць тысяч!"

Зразумела, што з'яву, якая называецца шчасцем, нельга звадзіць толькі да грошай. Аднак і ўсе іншыя праявы нашага жыцця перастаюць наогул радаваць, калі са сферы мараў перараджаюцца ў сферу фактаў.

**Алесь Барскі**



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### З МАРКАЙ „ДАРМАША"

Машыны, распрацаваныя ў навукова-вытворчым аб'яднанні „Дармаш", што ў Мінску, прызначаны пракладваць новыя дарогі, выконваць іншыя буйныя земляныя работы. Гэта цэлая серыя разнастайных машын грузападымальнасцю ад 0,75 тоны да 15 тон. Толькі летась выкарыстанне тэхнікі, створанай у аб'яднанні, прынесла краіне 140 мільёнаў рублёў эканамічнага эфекту.

Сёння ў аб'яднанні на розных стадыях выпрабаванняў і даводкі знаходзяцца 20 новых машын, яшчэ 32 канструкцыі падвяргаюцца мадэрнізацыі. Гэта работа вядзецца ў кантакце з аналагічнымі замежнымі арганізацыямі з Народнай Польшчы і Венгрыі. Цяпер у аб'яднанні „Дармаш" ствараецца буйнейшы скрэпер ДЗ-107-2, здольны перавозіць 25 кубаметраў грунту.

Прадукцыя аб'яднання выкарыстоўваецца не толькі ў розных кутках Савецкага Саюза, але і ў краінах сацыялістычнай садружнасці, а таксама Аргенціне, Грэцыі, Егіпце, Фінляндыі.

### ПРЫНЯЎ ПЕРШЫХ ПАЦЫЕНТАЎ

Дзе адпачыць, падлячыцца без адрыву ад вытворчасці? Гэта праблема вырашана для калектыву спецыялізаванага трэста „Белсантэхмантаж-2". Яго санаторый-прафілакторый, які толькі што адкрыўся непадалёку ад Мінска, прыняў першых пацыентаў.

У новым прафілакторыі, размешчаным у маляўнічай мясцовасці паблізу ад вадасховішча Вяча, можна не толькі прайсці эфектыўнае лячэнне, але і добра адпачыць. У двух добраўпарадкаваных спальных карпусах двухмесныя палаты, клуб з глядзельнай залай больш чым на 300 месцаў, бібліятэка, утульныя пакоі адпачынку. Па суседству з прафілакторыем размешчаны піянерскі лагер трэста „Белсантэхмантаж-2". Так што летам многія бацькі і дзеці змогуць адпачыць практычна разам. Гэты санаторый-прафілакторый стаў 19-й лячэбнай установай такога тыпу, якая адкрылася ў рэспубліцы ў адзінаццатай пяцігодцы. За яе чатыры гады ў санаторыях-прафілакторыях Беларусі прайшло аздараўленчы курс каля паўмільёна чалавек. Сёння гэтыя прафсаюзныя здраўніцы могуць прыняць адначасова дзесяць тысяч пацыентаў.

### СПОРТ

■ У Лейпцыгу прайшло першынство Еўропы барцоў класічнага стылю.

Выдатна на ім выступіла каманда Савецкага Саюза. Яна заваявала сем залатых, адзін сярэбраны і два бронзавыя медалі.

Асабліва вызначаліся выхаванцы беларускай школы барацьбы. Ігар Каньгін, Анатоль Федарэнка, Аганес Аруцюнян, Камандор Маджыдаў і Міхаіл Пракудзін занялі першыя месцы ў асабістым заліку.

■ Мінчанкі Вольга Садоўская і Алена Альтшуль заваявалі сярэбраны і бронзавы медалі адпаведна на чэмпіянаце СССР па міжнародных шашках.

■ На міжнароднай рэгаце „Перадалімпійскі тыдзень" у Францыі паспяхова выступіў савецкі экіпаж „Солінга" ў складзе масквіча Б. Буднікава, А. Мірона з Гродна і Г. Страха з Мінска. Савецкія спартсмены сталі пераможцамі гэтых прэстыжных спаборніцтваў.

■ Беларускія баскетбалісткі заваявалі сярэбраныя ўзнагароды на першых Усесаюзных юнацкіх гульнях.

■ Сярэбраны медаль атрымаў брэстчанін Барыс Ісачэнка на ўсесаюзных спаборніцтвах мацнейшых стралкоў з лука, якія прайшлі ў Самаркандзе.

■ Упершыню беларускі гімнаст Юрый Балабанаў стаў абсалютным чэмпіёнам Савецкага Саюза. У суме многабор'я набраў 114,575 ачка.

Беларускія спартсмены на першынство краіны перамаглі і ў агульнакамандным заліку.

■ У Сухумі прайшлі спаборніцтвы па кулявой стральбе.

Уладзімір Шылаў з Гродна заняў другое месца ў стральбе з пнеўматычнага пісталета, яго вынік 585 ачкоў з 600. Мінчанін Ігар Жаваранкаў стаў бронзавым прызёрам.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

# Рабінзоны XX веку

Перш чым адважыцца на такі рашучы крок у сваім жыцці, англійскі рэпарцёр Гарольд Кангслард не раз і не два спрабаваў на нейкай сенсацыйнай публікацыі выскачыць у людзі, вылучыцца сярод шматлікай масы газетнай брацці. Але яго адчайныя спробы не далі належных вынікаў. Урэшце рэшт ён зразумеў, што нават самай незвычайнай адной альбо некалькіх сенсацый недастаткова, каб крута перавярнуць свой літаратурны лёс.

Думаў-думаў Гарольд і прыдумаў: а што калі яму закаціцца некуды на бязлюдны востраў і, пажыўшы там тубземным жыццём, як той знакаміты Рабінзон Круза, потым напісаць пра ўсё гэта? Вось дык будзе сенсацыя! А рэкламу для сваёй асобы можна ўжо зрабіць зараз, адразу ж.

У адной лонданскай газеце неўзабаве з'явілася аб'ява Гарольда Кінгсларда, дзе ён публічна заявіў аб сваім рашэнні і выказаў пажаданне займець і свайго Пятніцу ў асобе жаночага полу. Прагных да рамантыкі і жадаючых збегчы аб стрэсавага тлуму цывілізацыі дам і дзяўчат розных узростаў аказалася больш паўсотні. Новы „Рабінзон XX веку" спыніў свой выбар на 24-гадовай Люсі Ірвін.

Абралі яны невялічкі востраў каля паўночных берагоў Аўстраліі. Аднак улады гэтай краіны патрабавалі, каб новыя жыхары аформілі шлюб, як гэта і патрабуецца па закону. І рамантычная гісторыя паслядоўна развівалася далей: прыезджыя афіцыйна пажаніліся, стварылі сям'ю ўдалечыні ад шумнага свету. Яны прывезлі з сабой нейкі запас кансерваў, рысу, насення агародніны, сеткі для рыбнай лоўлі і вялікую колькасць чаю — традыцыйнага пітва англічан. Але ў якасці зброі ў іх было толькі звычайнае мачэтэ: па-тубземнаму — дык па-тубземнаму!

Першыя тыдні ім абодвум вельмі спадабалася новае, амаль райскае жыццё. Люсі адчувала сябе проста на сёмым небе ад радасці. Асабліва ёй прыйшлося да спадобы тое, што можна было кінуць выклік-пратэст модам свету, ігнараваць іх і не думаць аб адзенні наогул, свабодна хадзіць у чым маці нарадзіла, што яна ахвотна і рабіла.

Але ішоў час і захапленне ад новага жыцця памеркла. Прадуктовыя запасы скончыліся, а рыбаком яе муж аказаўся не вельмі ўдалым, усё больш балбатаў аб сваіх будучых кніжках. Да таго ж, прынадзіўся лавіць нейкіх ядавітых рыб, ад якіх пакутавалі страўнікі. Расчараванне прывяло да сварак, скандалаў. Каб неяк узнавіць запасы харчу, лекаў, прэснай вады, якой не было на гэтым востраве, Гарольд часам кіраваўся на другі суседні востраў да абарыгенаў, рамантаваў ім лодачныя маторы, а Люсі заставалася ў самотнай адзіноце. А тут яшчэ маскіты і іншыя паразіты. Карацей кажучы, ужо праз нейкіх шэсць тыдняў Рабінзоны перасталі разлічваць толькі на сябе ў сваім тубземным натуральным існаванні і перасварыліся паміж сабою да смерці.

Года не прайшло ў гэтым рамантычным адзіноцтве, як Люсі сабрала свае манаткі, адзела замінаючае адзенне, ад якога паспела адвыкнуць, і драпанула назад у Еўропу, пад дах бацькоў. Ды яна не засталася ў дурнях. Люсі, не чакаючы, пакуль вернецца яе нарачоны, напісала і выдала задуманую ім кніжку пра жыццё на бязлюдным востраве і сабрала першы вельмі багаты плён. Кніжка ў кароткі час заваявала шырокую папулярнасць чытачоў, яна разышлася ў колькасці 400 тысяч экземпляраў. Ганарар Люсі адхапіла такі, што купіла на яго невялічкі, вельмі ўтульны маёнтак (ферму) ў Шатландыі і там знайшла сваю сапраўдную сучасную рамантыку — пад бокам у цывілізацыі.

А Гарольд? Той, як кажуць, застаўся пры самых інтарэсах. Ён пакуль па-ранейшаму жыве Рабінзонам і рамантуе лодкі для тубземцаў.

**А. Л.**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 313

### ВЕНГЕРСКАЕ МОРА

Венгерскае мора —
Слаўны Балатон.
Адпачынак дорыць
Тут турыстам ён.

Паўднёвае сонца
Песціць цеплынёй,
Багровіць бясконца
Целы над вадой.

І хоць цяжка мову
Зразумець мадзяр,
Тут нават без слова
З дабрынёю твар.

І таму няспынна
З адлеглых старон
Турыстаў гасцінны
Вабіць Балатон.

**Віктар Швед**

### ЗОРКАПАД

шукаем сябе
а тут процьма зор
сыплюцца як мак
на вочы і вусны
— зоркапад

травы — вялікі лес
хіляць сцяблінкі
прыхільна — да рук
дзе пад скурай жывой
кроў трапечацца

плывём па венах
адкрываем усе
мысы вяршыні залівы
мора нас выкіне
пасля крушэння
усіх на свеце караблёў
без сіл выпаўзем
на бераг Новай Зямлі
а сонца з нас сцалуе
марскую горку соль

**Міра Лукша**

### ГОЛАСАМ ГАДЗІН

Кліча дзень, галёкае
Голасам гадзін.
Дзесь зусім далёкае —
Блізкае — глядзі.

Што, як цень хаваецца,
Каб з'явіцца зноў,
Рэхам заікаецца,
Хоча падмануць.

У вачах трапечацца,
Як рукой сягнуць.
І хаця не верыцца,
Грэх не заглянуць.

Нібы ліст калоціцца —
Не чакаць дабра.
Пакідаць не хочацца,
Хоць даўно пара.

**Л. Танкевіч**

* * *

камень
    аснова
на якой трэба стаяць
ты
  камень
цвёрды
моцны
сваёй красой душэўнай
лечыш свае раны
ты
  камень
мая асалода
крыніца душэўнага
                жыцця
ты аснова

**Яніна Шостак**

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## Зноў Падляшша



Зноў Падляшша! Край мой
                    родны,
Дзе майго юнацтва годы
Прагарэлі, як паходня
На вячэрніх карагодах.

І даўно іх каляіны
Занеслі пургі барэя,
Толькі скрыліся ўспаміны
У завулачках падзеяў.

Са шчылін выходзяць ціха
І наводзяць параўнанні:
То мяне засмуцяць крыху,
То пацешаць нечакана.

Смутна мне глядзець, як
                    старасць
Сівізной пакрыла блізкіх,
Напісала на іх тварах
Баразны, штрыхі і рыскі.

Як яна сваім цяжарам
Ім забрала бляск і сілу,
Ці скавала, як ахвяры,
Злой хваробай ці магілай.

Мне шкада сяброў юнацтва,
Тых, якіх больш не пабачу,
Бо не можам зноў спатканца,
Пажадаць здароўя, ўдачы.

Я яшчэ іх памятаю —
Іх вясёлых, іх прыгожых
Пры вясельных караваях,
Пры ад'ездзе ў падарожжа.

Вельмі цешуся, што бачу
Іх мажных дзяцей і ўнукаў,
Як жывую перадачу
Свежай будучыні ў рукі.

Вельмі рад, што іх не мучаць
Голад, смага і галеча,
Што іржышча больш балюча
Босых ног ім не калечыць.

Што яны не спяць на дошках,
Што касой травы не косяць,
Што з балота аж да вёскі
Сена мокрага не носяць.

Што не жнуць сярпамі збожжа,
Не малоцяць больш цапамі,
Што не ткуць зімой рагожы,
Не прадуць ільну начамі.

І што ў школу ходзіць моладзь,
Ды здаецца ёй забаўным,
Што бацькі цярпелі голад,
І то так яшчэ нядаўна.

Што для іх конь быў багаццем
А карміцелькай — карова.
Што іх маткі ткалі плацця
На аснове каляровай.

Бо хто марыў з іх, каб трактар
Ці машыну мець уласну?
Ездзіць ёю ў горад трактам —
Як па палатне атласным?

Ці хтось думаў з іх, што ў хаце
Будуць мэблі і дываны?
Са святлом, як у палацы,
Ды з вадой у кухні з крану?

Памятаю я вяселлі:
Без талерак — ежа ў місках,
Пілі госці для пахмелля
Увесь час адным кілішкам.

Пераходзіў з рук у рукі,
З вусн у вусны з горкай водкай.
На дне місы лыжкі з буку
Цалаваліся салодка.

То тварог так елі госці,
Як з катла, ды ўсім кагалам
Абгрызалі мяса з косці
І жавалі хлеб і сала...

Як змянілася ўсё гэта
За час скромны — пакаленне:
І культура, і асвета
І ўсіх поглядаў адценні.

Смутна мне, што ў нашых
                    вёсках
Гіне родны наш абычай.
Рэдка чуць там адгалоскі
З родных назваў, з родных
                    клічак.

З кожным годам песень родных
Усё менш спявае моладзь,
А шукае спевак модных
У замежных балаголаў.

І стыдзіцца роднай мовы.
Як дайдзе ўжо да пасады,
І святкуе ў стылі новым
І вяліквдзень, і каляды...

Я люблю далей Падляшша —
Хаты, нівы і бярозы.
І калі з паднебнай чашы
Вее снегам і марозам.

Я люблю ўсе вёскі, сёлы,
Іх прастое асяроддзе,
І люблю я ўсю іх моладзь,
Хоць не заўжды з ёю ў згодзе.

*28 сакавіка г.г. у Венс (Паўднёвая Францыя) ва ўзросце 97 год памёр вядомы мастак Марк Шагал. Нарадзіўся ён у Віцебску...*

## НА СМЕРЦЬ МАСТАКА

Лета — самая цудоўная пара, асабліва ў ліпені, і тыя ночы, Божа дай мне тыя ночы, калі скрыпач сядзіць на самай высокай і пахучай ліпе, а месяц — я гляную на яго і мая галава закружылася і так кружыцца, так кружыцца вечным вяселлем.

Уявіце сабе карціну велічыні 77х77,5 см. Бачым на ёй клуню, якіх сотні яшчэ стаяць на вёсках. Перад клуняю, на зялёнай траве, пасвіцца конь. Ля плоту расце бяроза, бліжэй нас, налева — елка. На траве спіць чалавек у блакітнай кашулі. Побач ляжыць жоўты капялюш. Гэта паэт. Яму сніцца такі сон:

Вяселле было летам. Мая нарачоная з сумнымі вачыма чакала мяне як заўсёды з нямой турботай. Прыйшла ноч. Прыляцела рыба з чырвонымі крыламі і забрала гадзіннік. Час спыніўся. Музыка іграў сваю мелодыю з віртуознасцю роўнай Яшы Гайфіцу. Я ўзяў сваю нарачоную за руку. Яна сёння апранута ў святочную цёмна-блакітную сукенку з белым каўнерыкам. У руках яе букет, а ў вачах заклапочанасць пра наш лёс.

— Ах, дарагая, не сумуй, заспявай мне песню Саламона, няхай яе гучанне заўсёды будзе з намі, так як не пакіне нас ніколі гэтая зачараваная, палаючая скрыпка!

Я абняў моцна яе і мы паляцелі. Узляцелі высока па-над мястэчкам, па-над крывымі домікамі, доўгімі платамі і купалам царквы. Як прыгожа выглядае ўсё зверху: я і маё мястэчка.

— Шолэм алэйхем, — закрычаў я старому яўрэю з зялёнай рукой, які сядзеў на панадворку сваёй ружовай хаткі. Але ён мне не адказаў, заняты сваімі вечнымі і сумнымі думкамі, якія заўсёды хвалююць старых яўрэяў...

Прыйшла ноч. Голуб прынёс свечку, якая асвятляла нам дарогу ў дом, дзе чакалі нас госці ў святочным адзенні і з вясёласцю на тварах. Згінулі шэрыя твары людзей, якія можаце пабачыць сёння, калі паедзеце туды ў будні дзень і калі схочацца вам ехаць туды...

Я паклаў руку на грудзі сваёй нарачонай і пачаў маліць Бога пра вечнае вяселле:

— Пачуй, Госпадзі, малітву маю і ўваж голас малення майго.

Такі быў ягоны апошні сон. Ён памёр, але бяроза ўсё шуміць ліпеньскім подыхам, а конь усё шчыпле сакавітую, зялёную траву. Імя гэтай карціны — „Вечнасць". Наш паэт памёр, але мы развітваемся без жалю з ім і чароўнаю музыкаю палаючых скрыпак:

— Adieu monsieur Chagall, — апошні скрыпач на даху Еўропы, — au revoir.

**Валянцін Сельвясюк**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Цэласць беларускага вясельнага абраду складаецца з наступных складовых частак-адслон: допыты, сваты, розгляды, лады, заручыны, паненскі вечар, каравай, успамаганне, пасад, вянок, шлюб, вясельная бяседа ў хаце маладой, перапіванне, ад'езд да дому маладога, вясельная бяседа ў доме маладога, прыданне, упавіванне, перапой-паражовіны.

Апрача пералічаных назваў у некаторых рэгіёнах Беласточчыны, а часам нават у суседніх вёсках, выступаюць розныя сінанімічныя назвы паасобных частак вясельнага абраду. Такі ж самы тэрміналагічны разнабой адносіцца да асоб, якія ў вяселлі выконваюць розныя функцыі і розныя ролі як пры маладой, так і пры маладым, Пры гэтым, аднак, трэба падкрэсліць, што вяселле як спектакль на ўсёй Усходняй Беласточчыне мае амаль поўнасцю аднародны характар.

Пяройдзем цяпер да характарыстыкі паасобных вясельных этапаў:

**Допыты.**

Допыты былі першым актам вясельнага рытуалу. Паходжанне назвы выводзіцца ад слова „дапытвацца". Допыты мелі характар разведкі. Выступалі яны толькі тады, калі паміж сем'ямі дзяўчыны і хлопца не было бліжэйшых адносін, калі не было ўпэўненасці, як сям'я дзяўчыны ўспрыйме факт прыходу да яе сватоў. У допыты найчасцей ішла цётка ці іншая сваячка хлопца, які нагледзеў сабе дзяўчыну. Радзей у допыты ішла маці хлопца, або яго бацька. Такі пасланец хлопца, прыйшоўшы ў дом дзяўчыны, ніколі не гаварыў адразу, чаго прыходзіць. Амаль заўсёды выступаў тут прадлог тыпу пазыкі рэшата, нічальніц, бязмена. Толькі падчас даўжэйшай размовы пасланец хлопца паведамляў аб сапраўднай мэце свайго прыходу. Калі бацькі дзяўчыны праяўлялі свае адмоўныя адносіны да прапановы выхаду замуж іх дачкі, пасланец наогул не рабіў ніякіх націскаў і прасіў, каб гаспадары захавалі ўсю справу ў таямніцы. Зрэшты, існаваў няпісаны звычай не паведамляць аб допытах, калі заканчваліся яны няўдачай. Справа ў тым, што няўдачныя для хлопца допыты паніжалі вартасць і шанцы хлопца пры наступных сватаннях. Чым болей хлопец „аб'язджаў" дзяўчат і чым больш яму адмаўляла, тым ніжэй падаў яго аўтарытэт. З дзяўчынай было па-другому — чым болей прыходзіла ці прыязджала да яе сватоў, тым вышэй узнімалася яе цана і вага ў вачах суседзяў і ўсёй вясковай грамадскасці.

„Вано было так, — гаворыць жыхар Ляшукоў, Андрэй Самоцік, — што зусім па-другому глядзела на допыты сям'я дзяўчыны і па-другому сям'я хлопца. Бо бачыш, брацішку, чым больш прыходзіло, чы прыязджало да дзяўчыны тых пасланок у допыты, або хлопцаў у сваты, то вана выжэй нос задзірала. Бо то выглядало, што вана ўжэ вэльмі або хороша, або багата, або працавіта, або Бог ведае што. А з хлопцом то вано зусім па-другому. Калі вон паехаў раз, другі, трэці і ні адна яго не схоцела — то значыт, што грош ему цана. Або вон быў з бадоты валікае, або меў якісь моцны фэлер, або меў валіку сям'ю, братоў і сёстраў, як гароху, ні тут кажучы. Так што сам больш, так вано бывае ў жыццю, што тады, калі адному добрэ, то другому кепско. Але бывало і так, брацішку, што тые моцно ганоровы дзяўчата, каторы адкідалі і адкідалі сватоў, ждучы на ўсё лепшых і лепшых, урэшце даходзілі да таго, што ніхто да іх не адважваўся ехаці. Здаралася і такое, што такая разумніца і ў старых дзеўках заставалася".

Вяртаючыся да допытаў, трэба сказаць, што былі яны пазбаўлены каларыстычнага фону, песень ці выпіўкі. Мелі, як мы ўжо сказалі, характар разведкі, ад якой залежалі далейшыя лёсы вяселля. Калі заканчваліся ўдачай, зацікаўленыя бакі пераходзілі да наступнага этапу вясельнага рытуалу — сватоў.

**А. Баршчэўскі**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Сямейна-бытавыя песні,** 1984, стар. 752, цана 222 зл.

Чарговая кніга са шматтамовага выдання „Беларуская народная творчасць", якое ўжо пятнаццаць год сістэматычна ажыццяўляе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Гэты аб'ёмісты том склалі 750 песень, у якіх адлюстраваны разнастайныя адносіны ў колішняй сям'і. Многія з іх па сённяшні дзень бытуюць таксама на Беласточчыне. Склаў кнігу, сістэматызаваў тэксты, пракаменціраваў іх і напісаў уступны артыкул І. К. Цішчанка, музычная частка ў апрацоўцы Г. В. Таўлай.

**Промыслы і рамёствы Беларусі,** 1984, 192 стар., цана 94 зл. 50 гр.

Зборнік артыкулаў пра розныя промыслы (збіральніцтва, паляўніцтва, бортніцтва і пчалярства, рыбную лоўлю, выраб і апрацоўку жалеза, шкларобства, выраб вугалю, дзёгцю, паташу, вырабы з пянькі, сплаўны промысел) і рамёствы (апрацоўка дрэва, вырабы з кары, лубу, мачалы, пляценне, ганчарства, ткацтва, вышыўку, выраб сукна і лямцу, гарбарства і кушнерства, выраб музычных інструментаў, апрацоўка каменя, касцей, рагоў) на Беларусі ў мінулым і цяпер.

Іпатава В., **Перакат,** 1984, стар. 248, цана 78 зл.

Зборнік апавяданняў, героі якіх пераважна маладыя людзі, яны толькі-толькі ўступілі ў самастойнае жыццё і імкнуцца зрабіць у ім нешта вартаснае, не дапусціць да памылак. Спецыяльны раздзел — абразкі з далёкага мінулага Беларусі: пра Паўлюка Багрыма („Ваўкалакам абярнуся"), часы полацкіх князёў Рагвалода („Святаслава"), Усяслава Чарадзея („Расанка").

Чыгрынаў І., **Ці бываюць у выраі ластаўкі?** 1983, стар. 333, цана 42 зл.

Зборнік лепшых апавяданняў з дагэтуляшняй творчасці аднаго з вядучых сучасных беларускіх празаікаў. Праблемы шчасця, сэнсу жыцця — галоўны іх змест.

Грачанікаў А., **Палессе,** 1983, 125 стар. цана 36 зл.

Вершы і паэма („Палескі трохкутнік") — плён апошніх год вядомага паэта і рэдактара часопісаў для дзяцей (спачатку „Вясёлкі", а цяпер „Бярозкі").

Кнігі можна таксама атрымаць па пошце. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki", ul. Kilińskiego 10, 15-085 Białystok.

(мг)

жам, пані Н. І. Абяцала падказаць нешта ў справе. Сын яе сяброўкі нешта чуў і бачыў. І пані Н. І. замоўкла, але Ганна Б. пачала прыватнае следства. Знайшла тую сяброўку, пагаварыла з ёю шчыра. Пані Н. А. ведае многа. Падазрае ў забойстве нейкага, скажам, Ж.

— Ведаеце, ад напасці можна прапасці. Але калі бачылі і гавораць, то гэта не на пуста...

Пані Н. А. звязвае многа фактаў, якія прывясці тут не можам.

— Ведаеце, той забіты — ваш сядзіць у арышце, а Ж. так хлопцам пагражае: „Як выдасі, то я табе... Няхай ано выйду! Пасяджу 5-12 год, але пасля прыхлабушчу!"

— Кажуць, як ішоў па вуліцы, спяваў такую сваю песеньку: „Забіў аднаго — заб'ю другога?" Гаварыў: „Мне чалавека забіць — гэта нішто!"

— Ён яшчэ сам усё скажа, хай толькі яго возьмуць... Лепей не запутвацца ў гэтыя банды... Прыдзе час, і ён сам усё-ўсё скажа... Кожны мае свае праблемы, а з такімі дурнямі не варта мецць справу... Маці яго адразу на абедні сказалі, што сын забіў хлопца. Маці смуткуе, а ён сабе не ўсведамляе... Але прыйдзе канец на такіх. Аднак вы не трывожцеся — будуць людзі больш гаварыць. Пакуль што не трэба гаварыць замнога... А як Ж. возьмуць, ён усё мусіць сказаць. Во, яшчэ не толькі тое скажа, што забіў чалавека! Ён будзе гаварыць, што яны рабілі, бо яны ў Гайнаўцы наварочалі спраў не адных тых. Я вам скажу гэта ў таямніцы. То ж яно мне гэта ўсё непатрэбна. У мяне свае дзеці. Скажа: тая гаварыла, тая данясла. То ж гэта шайка... Але вы не трывожцеся... Язык можа пашкодзіць... Вы толькі там у яго квартале ні з кім не гаварыце. Я вам гэта кажу, як сваёй матцы, тут справа сур'ёзная...

Ганна Б. ходзіць, размаўляе. Трапляе нават да самых блізкіх суседзяў Ж. Гаворыць з яго маткай і іншымі людзьмі. Інкогніта і як маці арыштаванага Геніка Б.

— Я не ведаю, якая праўда. Я — маці, якая хоча праўды аб сваім сыне. Напаткала мяне трагедыя, тым большая, што сама я ведаю роспач над целам мёртвага сына. А цяпер... Мне ўжо імёны блытаюцца Паўлікава і Генікава. Высахла я. Чытаю Генікавы пісьмы, езджу да яго. Божа мой, які ён іншы, дарослы стаў. Кажа: „Мама, гэта Бог на мяне такую кару паслаў, каб я навучыўся цаніць вас і свабоду. Мама, нявінны я. Мама, людзі ж бачылі, хто вінаваты. Не можа ж гэтага быць, каб людзі не ведалі праўды! Яны ўсё скажуць".

Ганна Б. ходзіць, гаворыць. Заходзіць да тае жанчыны, гэтая абяцала раней дапамагчы.

— Ён бачыў, як Ж. забіваў, але аб тым нельга гаварыць. Божа барані! Чалавек сказаў маці, што выпадкова бачыў, і нашто яго цяпер маюць цягаць? І нашто мне гэта? Каб я ворага нажыла сабе смяротнага? Ведаюць усе, а сказаць не скажуць.

(Працяг на стар. 6)

## З маёй званіцы

# Абое рабое

— Куды ідзеш?
— У горад.
— Ну, то не йдзі.
— Булкі маеш?
— Не, няма.
— Ну, то не куплю.
— А малако дома маеш?
— Таксама няма.
— То што, не прыносіць?
— Чаго?
— Як не, то не.
— Што, чаравікі купіў?
— Не, туфлі.
— Няхай сабе туфлі, але ж гэта боты!
— Калі боты былі туфлямі?
— Тады, калі ляжаў глыбокі снег!
— А калі ляжаў глыбокі снег?
— Дзе?
— У Афрыцы!
— А калі ты бачыў у Афрыцы снег?!
— Тады, як там быў.
— А быў?
— Не.
— То чаму не заехаў па дарозе?
— Па якой дарозе?
— А якія бываюць дарогі?!
— Асфальтовыя, чыгуначныя і мо яшчэ якія.
— Ну, то па найлепшай, але глядзі, каб не ўпаў.
— Абую жорсткія боты, якія не коўзаюцца, — паеду на лыжах.
— А ты чуў, што Коля свінню прадаў?
— Каму?
— Не ведаю.
— То як ён мог прадаць?
— Каб каня купіць!
— За свінню каня!?
— А ты, што, хацеў пару?
— За свінню ён можа купіць толькі жарабя.
— Ну, пэўна, разумнік, пару коней і жарабя!
— Мне можа купляць, што хоча!
— А пэўна, каго ж ты калі пашкадаваў?!!
— Ты ў які бок гнеш?!
— У які хачу, і твая малая справа!!
— Чаго ты гарачышся, мы ж гаворым па-добраму?!
— З табою пагаворыш, калі ты ўсё супраць!!!
— Супраць каго!!!
— Супраць мяне!
— Адкуль ты гэта ўзяла!?
— Бачу па жарабяці!
— Па якім жарабяці?
— Па тым, што Коля за свінню купіў!
— А купіў?
— Хто яго ведае?
— Ну, то чаго гараваць?
— Таго, што ты пляткар!
І замоўклі на два месяцы.

**Васіль Петручук**

## АФАРЫЗМЫ

Ён быў моцны сярод слабых і слабы сярод моцных. Жонцы заўсёды пагражаў:

— Глядзі, калі мне не дагодзіш, чырвоную з носа спушчу.

Беларусы, якія пакідаюць праваслаўе і пераходзяць на каталіцызм, стаяць пасярэдзіне. Яны ад адной веры адышлі, а да другой не дайшлі.

**Аўрора**

# СТУЖКІ ПРАЎДЫ

(Працяг са стар. 5)

бо, ведаеце: то бацькі добра жывуць, то сябры добрыя...

— Як жа гэта так?

— Я разумею, што вам вельмі прыкра... Але ваш сын выйдзе. Рана-позна дойдуць памаленьку, хто вінаваты. Хтосьці пісне, хтосьці крыху ляпне, усё выйдзе наверх... Гэта ўжо справа толькі міліцыі...

Наступная размова:

— Сёння да мяне калега прыходзіў. Так нельга, я вам сказала слова, а вы хутчэй пабеглі ў міліцыю. Брыдка вы робіце: ходзіце па Гайнаўцы і рознае гаворыце. Вы лепей не лазьце і не боўтайце, бо гэтым нічога добрага не наробіце. Я вам добрую параду дам: меней гаварыць. Як нічога не дакажуць, то і вы нічога не дойдзеце...

— У мяне такія доказы...

— Ніхто вам не скажа, што Ж. тады там быў.

— Родная маці яго мне сказала...

— Ніхто не хоча пхацца не ў свае справы. Ведаюць, але не гавораць. Такая справа, — ну, ведаеце, якая яна справа. І ніхто не даведаецца.

— Даведаецца.

— Не-е-е, не даведаецца. Напэўна нічога не даведаюцца. Ідзіце лепей і не дурыце мне галавы... Ну!...

— Вы абяцалі мне дапамагчы. Як не... Але я вам пакажу, хто будзе гаварыць (паказвае магнітафон). Вось гэтая бессардэчная машынка. Яна ўсё скажа. Будзе канфрантацыя: усе скажуць праўду.

— Не мелі вы права! Нельга так!

— Бацька Ж. сказаў, што ён яшчэ вам дасць як у дэтэктыва забаўляцца, вінаватага шукаць. Бяспраўна!

Гэта ўсё, што тут я магу падаць.

Пані Ганна Б. запісала ўсё на магнітафоннай стужцы. Размоў многа і з рознымі людзьмі. На вуліцы, на панадворку, у хаце, у кіёску. З іх можна было б змантаваць вельмі цікавы радыёрэпартаж, страшны сваёй праўдай. Людзі, якія ведаюць многа, баяцца, моўкнуць, а пасля нават пагражаюць, перашкаджаюць у рабоце міліцыі.

— Вы цяпер не хадзіце па вуліцы, — раяць суседзі Ганне Б. — Жыцця вам не будзе. Не ведаеце, каго чапаеце.

Не верыцца, як гэтая бедная простая жанчына, прыбіральшчыца, маці, прыбітая няшчасцем, мела сілу і адвагу так спакойна гутарыць з гэтымі людзьмі. Магнітафонная стужка бясстрасна і многакратна паўтарае словы ў гэтым „рэпартажы проста з жыцця“.

Запісы здадзены ў распараджэнне адпаведным службам.

Астаецца прывесці словы з пісьма хлопца, які чакае высвятлення трагедыі:

„Сумленне — гэта прысутнасць Бога ў чалавеку...“

**Міра Лукша**

# ДРУЖБА І МІР

(Працяг са стар. 1)

рэдніх школ. Выступілі таксама калектывы ад літоўцаў і беларусаў, пражываючых у Польшчы. Адну беларускую песню выканаў вядомы калектыў з Гарадка, які пасля абеда, але ўжо на выстаўцы аб супрацоўніцтве і дружбе між Польшчай і СССР у час пасляваеннага сорокагоддзя, выступіў з багатым канцэртам беларускіх песень.

На гэтую выстаўку былі таксама запрошаны ўсе ўдзельнікі літоўскай і беларускай дэлегацый, якія прыехалі ў Беласток на мітынг дружбы і міру. Тут маглі яны купіць сабе памятныя сувеніры аб пабыўцы на гасціннай Беластоцкай зямлі. Тут таксама наладжваліся сяброўскія сустрэчы даўнейшых знаёмых і сваякоў ды заводзіліся новыя знаёмствы. Тут найбольш красамоўна пацвярджалася сапраўды шчырае і сардэчнае сяброўства між жыхарамі Беласточчыны, Гродзеншчыны і Літвы. Цяжка было развітвацца. Усе сабе ўзаемна жадалі: да наступнай сустрэчы!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Ад імя Гродзенскай дэлегацыі з гарачым заклікам да барацьбы за мір выступіў тав. І. Машко.



Дэлегацыі ад Беласточчыны, Гродзеншчыны і Літвы ўсклалі вянкі ля помніка.

ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

# Сардэчныя адгалоскі

Сёння я вымушаны крыху знысці з партызанскіх сцежак, на якія мы кіраваліся, назіраючы дасяванне антыфашысцкага руху ў раёне Гарадка. Проста паявіліся новыя факты, якія неабходна дапісаць да лёсу герояў гэтых нарысаў аб пакутніцтве людзей у час апошняй вайны.

У панядзелак, 6 мая 1985 г. завітаў у рэдакцыю „Нівы“ селянін з вёскі Тыневічы Вялікія, што ў Нараўскай гміне.

— Я па справе таго, што вы напісалі ў „Ніве“ ў „Магіле ля дарогі“, — заявіў Міхаіл Садоўскі. — Вы там пішаце, што сын шукае магілу свайго бацькі Івана Грыгор'евіча Іванова...

Так, пішу. Гэта было ў „Ніве“ ад 21 красавіка бягучага года. Ад імя Леаніда Іванавіча Іванова звярталіся да нас за дапамогай члены групы „Пошук“ сярэдняй школы № 2 горада Сватава Варашылаўградскай вобласці на Украіне. Пішу я аб гэтым, бо і мне і ў нашу „Ніву“ пішуць людзі з розных куткоў вялікай Краіны Саветаў, ды не толькі.

Нядаўна атрымалі мы ліст з Англіі ад М. Швэдзюка, які, між іншым, піша:

„Прачытаў артыкул „Партызанскія сцежкі“ („Ніва“, № 49 (1490) 2 XII 1984), у якім успамінаецца аб дзецях з Украіны, якія шукаюць В. Корміча.

Задумаўся я над гэтым пісьмом і падумаў аб сотнях, тысячах беларусаў, якія загінулі на франтах у Італіі, Нармандыі, Нідэрландах, пад Арнгаймам і гэтак далей. Пра іх мала хто ўспамінае...“

Праўду напісаў чытач з Англіі. Нашы суродзічы на многіх франтах другой сусветнай вайны пралівалі сваю кроў за „вашу і нашу свабоду“. Былі яны і пад Леніна ў саставе Першай дывізіі Войска Польскага і пад Монтэ Касіна ў саставе Другога Польскага корпуса і ў многіх іншых бітвах, што пацвярджае і сам М. Швэдзюк, апісваючы лёс салдата Польскай Арміі, Івана Федарчука, родам з вёскі Грыневічы пад Беластокам, які загінуў у Італіі пад горадам Авіляна.

Аб гэтым пагутарым мы іншым разам, бо справа патрабуе шмат якіх доследаў, і збіраўся я ўжо ў паездку следам гэтага пісьма з Англіі.

Сярод рэдакцыйнай пошты знайшоўся ліст ад сына палітрука Валянціна Корміча, які загінуў ля надбужных дотаў, недзе ў раёне вёскі Мінчэва, што цяпер у гміне Драгічын, калі ў чэрвені 1941 года на Савецкі Саюз напала гітлераўская навала...

Бачыце, сябры, як нечакана пераплятаюцца справы! М. Швэдзюк, прачытаўшы аб гібелі В. Корміча, задумаўся аб пакутніцкім лёсе многіх тысяч беларусаў, а тут і сын гэтага В. Корміча адклікнуўся.

Ён піша:

„Я — Корміч Віталій Валянцінавіч, старшы сын палітрука Корміча Валянціна Парфір'евіча. Найперш я хачу сардэчна




**У багатай мастацкай частцы прыняў таксама ўдзел мастацкі калектыў з Гарадка.**



**Прасторны амфітэатр, што ў Цэнтральным парку, запоўніўся да апошняга месца.**

вам падзякаваць за тыя цёплыя адносіны, якія вы праявілі да нас і да лёсу нашага бацькі, якога (а дакладней, нейкай вестачкі аб ім) мы так доўга чакалі і шукалі...“

Прыемна мне атрымліваць такія падзякі. Гэта доказ, што мае намаганні камусьці патрэбныя. Толькі гэтую падзяку я абавязаны раздзяліць таксама са многімі маімі рэдакцыйнымі супрацоўнікамі і тымі шматлікімі чытачамі „Нівы“, якія актыўна ўключаюцца ў маю вандроўку ваеннымі сцежкамі.

Аб праблемах вайны і міру з нагоды 40-й гадавіны Перамогі гаварылася ў апошні час вельмі многа. І страшна чалавеку робіцца, калі чуеш, што сам прэзідэнт вялікай і магутнай краіны з аднаго боку намагаецца абсталяваць атамную і лазерную смерць у космасе, каб адтуль замяняць у попел і дым усё жывое і мёртвае ў любым кутку свету, а з другога боку гэты ж прэзідэнт з вянком у руках кланяецца магілам гітлераўскіх галаварэзаў, падобных тым, якія ў нас знішчылі Райск і дзесяткі іншых вёсак, напрыклад, вакол Белавежскай пушчы. Ды яшчэ па загаду гэтага прэзідэнта ў Маскве на парадзе ў гонар Перамогі не хапіла афіцыйнага прадстаўніка належнага рангу ад гэтай краіны...

Такое становішча насцярожвае. Гэтым ворагам мірнага жыцця трэба пільна глядзець на рукі. І таму я пішу аб жахах вайны, якая для многіх, вельмі многіх сем'яў усё яшчэ не закончылася, хаця мы ўрачыста адсвяткавалі 40-ую гадавіну Перамогі.

Вось Віталій Валянцінавіч Корміч, сын палітрука, паведамляе, што яго маці, значыць, жонка загінуўшага Валянціна Корміча, вельмі ж хацела б пабываць на брацкай магіле савецкіх салдат у Мілейчыцах, дзе пахаваны яе муж. На жаль, пажылы ўзрост і цяжкасці са здароўем не дазваляюць ёй на такое далёкае і хвалюючае падарожжа.

„Аднак, — піша Віталій Валянцінавіч, — яна вельмі хоча, каб мы, сыны, (ёсць яшчэ мой родны брат Юрка) наведалі магілу бацькі і, згодна з вашай парадай, каб устанавілі на яго магіле хаця б дошку з памятным надпісам (яна ў нас ужо гатова)“.

Абодва сыны В. Корміча, Віталій і Юрка, жывуць цяпер у Крыме, у горадзе Сімферопалі. Маці пастаралася даць ім вышэйшую адукацыю і жывуць яны добра. Абзавяліся сем'ямі. Толькі гэтая рана ў сэрцы ад вайны!

„За месяц да пачатку вайны, — піша Віталій Валянцінавіч, — быў ліст ад бацькі, у якім ён паведамляў, што цераз два тыдні канчаецца яму ўжо тэрмін службы і мы яго ўжо чакалі дома...“

А цяпер я буду чакаць прыезду сыноў на магілу іх бацькі і тады зноў павядзём мы гутарку аб лёсе сям'і Кормічаў.

А пакуль што я хутка ўключыў магнітафон, каб запісаць расказ Міхася Садоўскага з вёскі Тыневічы Вялікія. Кажа ён:

— Вы падаеце, што гэты Іван Іваноў пахаваны быў на могілках 700 метраў на захад ад вёскі Падухоўныя. Мне здаецца, што гэта можа адносіцца да на-

**(Працяг на стар. 8)**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Навуковыя доследы Чэслава Лапіча. (Універсітэт імя Мікалая Каперніка ў Торуні), звязаныя з Беласточчынай. Гады 1974-84

Terminologia hydrograficzna w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim, w: Sprawozdania Towarzystwa Naukowego w Toruniu, 1.I.1975—31.XII.1975, Toruń, s. 58—60.

Metodologia badań słowiańskiej leksyki geograficznej (wybrane zagadnienia), Acta Baltico-Slavica, t. XI, 1976, s. 211—233.

Leksykalne i semantyczne zróżnicowanie nazw dróg i ścieżek w ruskich gwarach Białostocczyzny, w: Acta Universitatis Nicolai Copernici, t. XII, 1977, s. 31—55.

Terminy: cmentarz, grób, mogiła w ruskich gwarach Białostocczyzny, w: Acta Universitatis Nicolai Copernici, t. XII, 1977, s. 57—63.

Лексіка — семантычныя сувязі ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны з іншымі дыялектамі (на матэрыяле геаграфічнай дыялектнай лексікі), у: Беларуская Лінгвістыка, 1977 (11), стар. 56-65.

Podstawowe modele semantycznych przekształceń gwarowej terminologii fizjograficznej, w: Zeszyty Naukowe Zakładu Slawistyki Uniwersytetu Gdańskiego, 1978, nr 1, s. 7—16.

Nazwy leśnych przestrzeni niezarośniętych w ruskich gwarach Białostocczyzny, w: Acta Universitatis Nicolai Copernici, Filologia Polska XIV Nauki Humanistyczno-Społeczne, z. 93, 1978, s. 55—63.

Проблемы микротопонимизации диалектной географической апеллятивной лексики, (Proceedings of the Thirteenth International Congress of Onomastic Sciences, Cracow, August 21—25, 1978/II9, s. 75—81.

(Streszczenie referatu w: Nomina appellativa et nomina propria. Streszczenia referatów na XIII Miedzynarodowy Kongres Onomastyczny, Kraków, 21—25 sierpnia 1978, s. 147).

Semantyczna i etymologiczna analiza leksyki geograficznej ruskich gwar Białostocczyzny z gniazda znaczeniowego gąszcz, zarośla, krzaki w: Zeszyty Naukowe Wydziału Humanistycznego Uniwersytetu Gdańskiego, Slawistyka 1979, nr 2, s. 37—56.

Terminologia geograficzna w ruskich gwarach Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim, Warszawa—Poznań—Toruń 1981.

Uwagi o zbieraniu słowiańskiej leksyki geograficznej, Acta Universitatis Nicolai Copernici, Filologia Polska XX Nauki Humanistyczno-Społeczne, z. 125, 1982, s. 47—64.

Funkcje sufiksu -ina a zagadnienia etnogenetyczne wschodniej Białostocczyzny (na przykładzie gwarowej leksyki wegetatywnej) w: Acta Universitatis Nicolai Copernici, Filologia Polska XXIII, Nauki Humanistyczno-Społeczne, z. 138, 1983, s. 73—88.

Ze studiów nad słownictwem geograficznym ruskich gwar Białostocczyzny. Terminologia wegetatywna z gniazd semantycznych: 'las' — 'bór' — 'gaj', w: Studia nad gwarami Białostocczyzny, Morfologia i słownictwo, Warszawa 1984, s. 25-42.

**Ю. Трачук**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Благаслаўляю цябе, дзіцятка, на ўсё добрае, а на благое сам навучышся.

Былі недастаткі праз дзень, а як дзеткі пайшлі — дык штодзень.

Бяда без дзяцей, але бяда і з дзецьмі.

Даў Бог дзеці, а няма дзе дзеці.

## Цікавінка

# Паміж жыццём і смерцю (4)

Ужо даказаны сувязі паміж тым, што чалавек есць, і хваробай рака. Амерыканскія вучоныя даказваюць, што развіццё рака можна паўстрымаць, калі не есці тлушчаў, не піць тлустага малака, як найменш ужываць алею і шмальцу, не есці прадуктаў, кансерві раваных соллю і вэнджаных — саланіны, вяндліны, рыб, шынкі. Затое трэба есці садавіну і агародніну, і то сырую, і збожжавыя прадукты. Ежа, багатая вітамінам A і C, узмацняе арганізм і не дапускае ракавых хвароб.

Пацукі, якіх кармілі ежай без тлушчу, старэлі паволі, некаторыя жылі два разы даўжэй, чым нармальныя. Малакаларыйная ежа ў найстарэйшых людзей свету, якія жывуць на Каўказе, у Эквадары, Тыбеце. У Грузіі ядуць найчасцей агародніну і садавіну, малочныя прадукты, мёд.

Цікавыя таксама старэйшыя доследы, якія даказваюць, што жывёлы, якіх кармілі чорным хлебам, малаком, сырымі фруктамі і сырой агароднінай, дажывалі доўгага і здаровага веку.

Калі ж кармілі жывёлаў па-еўрапейску: белая мука, цукар, тлушч, вяндліна, мясныя кансервы — жывёлы вельмі хутка пачыналі хварэць на гэтак званыя хваробы цывілізацыі, на якія пакутуюць еўрапейскія народы.

Яшчэ правялі вучоныя іншы дослед: падзялілі жывёлаў на дзве групы. Адным стварылі спакойную атмасферу, далі многа добрай ежы, трымалі на свежым паветры, без нерваў. Другой групе зусім інакш: далі замала ежы, пусцілі вострыя званкі, розныя нервуючыя неспадзяванкі. І што? Жывёлы з другой групы захавалі натуральную жыццяздольнасць, а тыя, якім жылося выгадна і добра, пачалі рана хварэць, губілі жыццяздольнасць.

Вынікі гэтых доследаў не адкрываюць ніякіх цудаў. Яны пацвярджаюць толькі тыя рэцэпты, якія прымянялі даўным-даўно натуральным спосабам. Чалавек старэў і будзе старэць. Старасць не хвароба, а натуральны стан арганізму.

Са старога не зробіш маладога. Трэба толькі шукаць спосабаў, каб старасць была радаснай, без страху і болю. І гэта асноўная задача сучаснай медыцыны. (авл)

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

Пасля двухмесячнага перапынку „Таямніцы" вяртаюцца на старонкі „Нівы". Зноў запрашаю Шаноўных Чытачоў да супольных назіранняў за акружаючай нас зелянінню, на кароткія шпацыры ў лес, на луг, у поле. Дапытлівыя могуць пачаць губіцца ў здагадках, чаму такі перапынак? Таму спяшаюся паведаміць, што ён не вынік ні арганізаванага супраціўлення чытачоў, ні ўмяшання цэнзуры, ні змены поглядаў рэдакцыйнай калегіі, а ўсяго толькі вынік незвычайнага збегу акалічнасцей. Дакладна 15 сакавіка — памятаю, як сёння — пазваніў мне адзін з чытачоў і, пераканаўшыся, што мае справу з аўтарам „Таямніц", пачаў дапякаць:

— Сораму не маеш: зіма шалее, а ты распісваешся пра лясныя салаты! Гэта ж ад такой пісаніны вясна можа быць позняя і халодная!

— Не разумею... — прамармытаў я, ачнуўшыся з хвіліннага аслупянення.

— Людзі таксама маюць свае таямніцы, не толькі расліны, — пачуў я.

Супакоіўшыся ад уражання, я пасмяяўся з перасцярогі і столькі таго. Але якое ж было маё здзіўленне, калі праз некалькі дзён потым мне стала вядома, што важныя службовыя абавязкі не дазволяць мне сустракацца з маімі Чытачамі якраз у самы цікавы для прыродазнаўцы веснавы час. Аказваецца, што мой размоўца меў рацыю, кажучы: „Паспяшыш — людзей насмяшыш"!

Хоць май ужо прамінуў, але яго адгалоскі яшчэ відаць і ў лесе, і... на вуліцах Беластока. Бабулькі ўсё яшчэ прадаюць вязаначкі майскіх ландышаў (лацінская назва — Convallaria majalis, польская — konwalia majowa, руская — ландыш майский).

Гэта адна з самых пахучых раслін нашай кліматычнай зоны. Якраз з увагі на пах і прыгажосць ландыш як дэкаратыўная расліна быў вядомы ўжо ў глыбокай старажытнасці. Рымскія гісторыкі пакінулі запіс, быццам у агародах егіпецкай каралевы Клеапатры ландыш цвіў круглы год! Сучасныя вучоныя не могуць паверыць, што гэта было магчыма. Праўда, цяпер кветкі ландыша можна мець на кожную нагоду. Даволі восенню назбіраць цыбулек, пакласці іх у халадзільнік і пасадзіць за 17-25 дзён перад тэрмінам у зямлю патрэбнай вільготнасці, цяпла і асвятлення. Але як гэта рабілі ў егіпецкім клімаце?

# Пра ландыш і забабоны



Прыгажосць кветак ландыша ўслаўлена ў слаўтых творах залатароў і жывапісцаў, яна натхняла фантазію паэтаў і народных казачнікаў. Колькі паўстала красачных легенд! Вось хоць бы тая, паводле якой кветкі ландыша — гэта ні што іншае, як застылыя слёзы дзяўчыны. Яна плача, надарэмна чакаючы свайго каханага воіна.

А калі ўжо пра дзяўчат, то мая бабулька згадвала, што ў часы яе маладосці яны падрумянвалі сабе шчокі сокам з ландышавых карэнняў, высушаныя і дробненька накрышаныя кветкі нюхалі, калі ім докучала мігрэнь або насмарк.

Лекавыя ўласцівасці ландыша былі вядомы ўжо ў часы Гіпакрата. Кветка ландыша стала сімвалам доктара медыцынскіх навук. Прыглядзецеся партрэтам Мікалая Каперніка, кветка ў яго руцэ інфармуе, што ён — лекар.

Цяпер майскі ландыш прымянецца ў лячэнні кровазвароту і неўрозаў сэрца і крывяносных сасудаў. Ландыш — атрутная расліна і нарыхтоўка з яго лекаў хатнім спосабам абмежавана. Аднак кнігі па лячэнню зёлкамі рэкамендуюць лякарства ад неўрозаў і бяссонніцы з кветак ландыша, бо толькі яны не атрутныя. Трэба насыпаць тры чвэрці бутэлькі свежых або высушаных кветак ландыша, заліць да паўнаты спіртам (або гарэлкай), паставіць на два тыдні. Прымаць па 10-15 кропель тры разы ў дзень.

**Б. Паскробка**

Мал. Б. Альшэўскага

## Куток практычных ведаў

■ Каб лягчэй сцерці хрэн, пакіньце яго на ноч у халоднай вадзе.

■ Разрэзаны лімон не высахне, калі вы па зрэзу змажаце яго бялком або жаўтком.

■ У самае гарачае надвор'е пятрушка, кроп, цыбуля захаваюцца зусім свежымі цэлы тыдзень, калі вы пакладзеце іх у шчыльна закрытую сухую эмаліраваную каструлю. Зеляніна таксама павінна быць сухой.

■ Каб разрэзаная цыбуля не засохла, пакладзіце яе зрэзам на спадачак з соллю.

■ Мясныя стравы лепш саліць у напаўгатовым выглядзе, бо ад солі мяса робіцца цвёрдым.

■ Цяжкі, непрыемны пах марской рыбы можна выдаліць, калі пакінуць яе на дзве-тры гадзіны з нагрэтай цыбуляй або нацерці разрэзаным лімонам.

■ Нават у летнюю спёку можна захаваць мяса, калі яго памыць і намазаць лімонным сокам. Да таго лімонны сок адганяе мух, і яны не садзяцца на мяса.

■ Мяса трэба захоўваць на холадзе, але не класці на лёд, бо на лёдзе яно страчвае свой смак.

■ Летам фарш можна захаваць, загарнуўшы яго ў пергаментную паперу, а затым у палатно, змочанае ў воцаце.

(Працяг са стар. 7)

# Сардэчныя адгалоскі

шага могільніка, які знаходзіцца між Тыневічамі, Каменем і Лапухоўкай, бо ўсё, як бы, нам згаджалася...

Але мне не згаджалася, бо вучні з горада Сватава пісалі аб вёсцы Падухоўныя, а тут Тыневічы Вялікія, Камень і Лапухоўка. Не хацелася, аднак, бянтэжыць мне добразычлівага селяніна, які ад шчырага сэрца намагаўся дапамагчы і мне, і сям'і загінуўшага Івана Грыгор'евіча Іванова. Я слухаў і ўсё болей быў перакананы, што, магчыма, натрапілі мы на правільны след.

— Бо, паслухайце, якая справа, — гаварыў дзядзька Міхась. — Вось гэтымі днямі завітаў да мяне адзін мой знаёмы, дзядуля Аксенцій, з Лапухоўкі. Яму ўжо за 80, але ён спецыяльна па гэтай справе выбраўся да мяне, бо мой татка быў старастам у тыневіцкай царкве і добра ведаў пра ўсё, што адносілася да цэлага тыневіцкага прыходу і прыхадскога могільніка. Татка, на жаль, ужо памерлі, і таму дзядзька Аксень спадзяваўся, штоколечы пачарпнуць ад мяне. Справа ў тым, што калі Саветы гналі ўжо назад немцаў і даволі заўзятыя баі ішлі пад Бельскам, то ў вёсцы Лапухоўка абсталяваўся ваенны госпіталь. Па хатах дзе якіх лепшых і па клунях ляжалі параненыя. А некаторых дык нават і на самалётах ад нас вывозілі. Я тады быў ужо жанатым чалавекам і таксама ўсё гэта бачыў. Не ўсіх параненых, вядома, удавалася адратаваць. Восем байцоў і аднаго афіцэра пахавалі яны менавіта на гэтым нашым прыхадскім могільніку, які якраз і знаходзіцца 700 (больш-менш) метраў на захад ад вёскі Лапухоўка. І тэрмін таксама супадае, бо ўсё гэта здарылася нейкіх два тыдні пасля Пятра і Паўла. Значыць, так, як вы падалі ў „Ніве", на пераломе ліпеня і жніўня. Калі хавалі гэтага афіцэра, можа быў гэта лейтэнант, а можа і старшы лейтэнант, адным словам, важны ваенны чын. Я і сам гэта бачыў, як у яго гонар салдаты залпам тры разы стралялі на салют. А на магіле стоўбік гэтакі з дошак збілі і чырвоную зорку на ім паставілі і прозвішча на таблічцы напісалі: Іван Іваноў. Толькі ці Грыгор'евіч — вось за гэта ручацца не магу. Калісьці ў майго пакойнага тата былі перапісаны ўсе імёны там пахаваных салдат. І бацюшка за іх маліўся. Але мы два разы будаваліся і пераносіліся з месца на месца, і гэты спісак недзе загубіўся. Драўляныя стоўбікі, што стаялі на салдацкіх магілах, таксама пагнілі. Але мы ведаем тое месца, дзе былі гэтыя могілкі, і хочам іх аднавіць. Бо яны там асталіся. Іх не чапалі, калі астанкі іншых салдат збіралі па палях і перавозілі ў Бельск. Гэтыя нашыя ляжаць ля самай сцяны цяперашняй нашай царквы...

Я слухаў, але розніца ў назвах вёсак не давала мне спакою. Аказваецца, што сяляне і на гэта знайшлі развязку.

— Мы з дзядзькам Аксенціем, — кажа Міхаіл Садоўскі, — разважылі, што гэтае Падухоўнае ці Падухоўка магло б добра быць і Лапухоўкай, бо напішыце, калі ласка, побач сябе назвы гэтых вёсак рускімі хуткапіснымі літарамі і пакладзіце паперку на 40 гадзікаў... Ці не лёгка Лапухоўку пераблытаць з Падухоўкай ці Падухоўнымі?

Сапраўды, можа быць і так, хаця ў Васількоўскай гміне, пад Беластокам, знайшоў я вёску з назвай Вулька Падухоўная. Трэба праверыць.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## РАЗБІТАЯ ШЫБА

З надыходам вясны і цяпла на перапынках хлопцы гулялі ў мяч на школьным двары. Аднойчы на вялікім перапынку нехта з хлапчукоў прынёс мяч, і пачалі гуляць у футбол. Раптам Віця моцна ўдарыў нагой па мячы, і той трапіў у акно на першым паверсе. Шыба трэснула і разляцелася, а хлопцы адразу кінуліся хто куды...

У час урока ў клас зайшоў дырэктар школы і спытаў:

— Можа, хтосьці з вашага класа разбіў акно?

Але ўсе маўчалі. Віця хацеў было прызнацца, але спалохаўся і таксама прамаўчаў. Дырэктар пайшоў, і хлапчук нават забыўся пра гэтае здарэнне.

На другі дзень Віця раптам пачуў, што за разбітую шыбу збіраюцца пакараць Славіка, таму што нехта сказаў, што бачыў, як Славік падбіў нагою мяч.

Віця спачатку ўцешыўся, а потым падумаў: „Гэта ж за мяне пакараюць невінаватага". Як тады да яго будуць адносіцца сябры, якія ведаюць жа, хто разбіў акно?

Пасля ўрокаў Віця вырашыў пайсці да дырэктара. Каля кабінета стаяў Славік. Ён сказаў.

— Бачыш, Віцька, што ты нарабіў, цяпер усё на мяне будзе за разбітае шкло, а ўсё з-за цябе.

— Не бойся, я разам з табой пайду ў кабінет дырэктара і нічога табе не будзе, — сказаў Віця.

Яны ўвайшлі ўдваіх.

— Я ж клікаў толькі Славіка — сказаў дырэктар. — А ты, Віця, чаго прыйшоў? Значыць, ты Славік, шыбу не выбіваў?

— Ён не выбіваў! Гэта я зрабіў! — выкрыкнуў Віця.

— Вось як. Дык чаму ж ты адразу не прызнаўся? Баяўся?

Хлопчык апусціў вочы...

Калі Віця ішоў са школы, настрой у яго быў радасны і на душы было добра і спакойна, нягледзячы ні на што.

І. Ш.



Найлепшыя спартсмены школы ў Белавежы Эрнест Валасовіч, Міраслаў Залеўскі, Роберт Трахімовіч і Янка Шымчак. Фота Я. Чэрнякевіч.

**Аляксей Дорахаў**

## ПТУШКА ПАДМАНУЛА

Аднойчы Алёша з татам і мамай ішлі мяккай лугавой сцяжынай да лесу.

Прыселі на зялёную траўку пад вялікай сасной.

— Пабегай, сынок! Ну, смялей! Вунь у лесе як прыгожа, — гаварыў тата.

Алёша прабег трошкі па лясной сцежцы і спыніўся. Раптам з вялікага куста яму насустрач з шумам і страшным крыкам вылецела чорная птушка. Села ля яго ног і пішчыць.

— Ну, чаго стаіш? Лаві драздзіху! — засмяяўся тата.

Алёша пабег за птушкай. Так яму хацелася яе злавіць! А птушка, валочачы па зямлі крыло, быццам падбітае, адскочыць трошкі далей і зноў сядае.

Птушка ўсё далей адводзіла яго па лясной сцежцы. І калі яна зусім блізка падпусціла да сябе, Алёша зрабіў скок, каб схапіць птушку, і ўпаў.

— Ма-ма!

Бацькоўскія рукі падхапілі сына:

— Эх ты, бяда-паляўнічы! Але нічога страшнага...

— А птушка падманула цябе, — сказала мама. — Але ты на яе не злуйся. Гэта яна адводзіла небяспеку ад сваіх дзецянят. Часам яна нават жыццём рызыкуе. Такое ўжо мацярынскае сэрца.

...А драздзіха ўсё лётала і лётала, крычачы на ўвесь лес. І Алёшу здавалася, што яна пасмейваецца над ім.



Урок беларускай мовы ў III класе школы ў Махнатым. Лешак Міранюк дэкламуе верш „Паравоз". Фота Я. Чэрнякевіч.

**Вольга Іпатава**

## РАНІЦА

На дасвецці
Хуткі вецер
Прабяжыць па сасняку.
З кветкі страсяне
Расінку,
Елку схопіць
За руку.
Дзьмухне ў дзюбкі
Сонным птушкам,
Зайчанятам —
У насы.
Узаб'е з імхоў падушкі,
Ускалмаціць
Верасы.
Зашапоча
Між галінак...
І якраз тады прамень
Заблішчыць
Як напамінак,
Што пачаўся
Новы дзень.

## МАСТАЧКА

Раніца —
Мастачка слынная.
Любіць прыгажосць дарыць.
Яркай стужкаю малінавай
Небакрай ужо гарыць.

І зялёныя, і сінія
Там, удалечы, лясы,
А чырвоны падасінавік —
У жамчужынах расы.

Вельмі раніца
Стараецца:
Возьме пэндзаль свой лясны —
Жоўты промень загараецца
На вяршаліне сасны.

Толькі колеры сасновыя
Даспадобы болей ёй.
Мо таму і сны ружовыя
Бачаць дзеці раніцой.

## КОНІК

Канюшыну конік косіць
І пагоды добрай просіць,
Каб сухую канюшыну
Пагрузілі на машыну.

Во плыве над гаем, полем
Хмара шэрая паволі.
Грукат чуецца ўнутры:
Там паселі млынары
І начныя туманы
Перамолваюць яны.

Кроплі пырскаюць з-пад
млыну —
Просяцца на канюшыну.
Дождждык, будзе табе колка!
Тут не луг цяпер —
Іголкі.

Не спяшайся! Тыдзень-два —
Вырасце яшчэ трава!
А пакуль тут конік косіць
І пагоды добрай просіць.

## ШЭРШАНЬ

Пчале зайздросціў Шэршань,
Што славіць яе свет,
А ён усюды чуе:
— Гультай і дармаед!

Ён іншым стаў нарэшце,
І дзякуюць яму:
Знішчае безліч Шэршань
Назол агідных — мух.

Ён рады, што нядаўна
Работніца Пчала
На развітанне лапку
На дружбу падала!

# Робім самі цацкі

## Самалёт „Ластаўка"




мал. 1.



мал. 2.



мал. 3.



мал. 4.



мал. 5.



мал. 6.



мал. 7.



а. мал. 8. б.



мал. 9.



мал. 10.



мал. 11.



мал. 12.



мал. 13.

*Сёння навучыцеся рабіць яшчэ адзін самалёцік з паперы — „Ластаўку", выглядам ён прыпамінае ластаўку.*

*Прамавугольны лісток паперы (любой велічыні) дзелім на квадрат і прамавугольную палоску, як паказана на мал. 1. Атрыманы квадрат заламваем па другой дыяганалі і на адваротны бок па сярэдняй лініі (мал. 2). Тады складваем яго паводле лініі заламанняў так, каб атрымаць падвойны складзены трохвугольнік (мал. 3). З аднаго (верхняга) трохвугольніка будзем складваць дзюбу. Да верхняга вугла складваем бакавыя вострыя вуглы трохвугольніка (мал. 4). Бакавыя вуглы зложанага такім спосабам квадрата заламваем да сярэдзіны ад ніжняга вугла (мал. 5), а потым іх заламваем да сярэдзіны ад верхняга вугла (мал. 6). Зводзім складзеныя напалову вострыя вуглы, каб атрымаць дзюбу (мал. 7). Цяпер бярэм адрэзаную палоску, заламваем яе напалову. Да сярэдняй лініі складваем два вуглы (мал. 8а і б). Так складзеную палоску ўсоўваем у сярэдзіну зложанага трохвугольніка і тады верхні вугал трохвугольніка складваем так, каб дзюба атрымалася спераду (мал. 9). Фігуру перагінаем па сярэдняй лініі. (мал. 10) і заломваем крылы (мал. 11 і 12). Бярэм пальцамі самалёт-ластаўку знізу за сярэдні склад (мал. 13) і лёгкім узмахам рукі запускаем у паветра.*

*Памятайце, што заламанні трэба рабіць вельмі дакладна паводле малюнкаў. Перагібы трэба загладжваць, каб атрымаліся выразныя лініі.*

**Ваня Майстар**



# Паглыбляй свае веды





### БУМЕРАНГ

Вы, мабыць, чулі ўжо слова „бумеранг". Так называецца баявая і паляўнічая зброя карэнных жыхароў Аўстраліі. Кіданая зброя, падобная на бумеранг, была і ў іншых народаў. У старажытным Егіпце, Індыі, Мексіцы. Але аўстралійскія бумерангі самыя дасканалыя.

Бумеранг падобны на сагнутую палку даволі складанай формы. У палёце ён хутка круціцца і робіць у паветры хітрую фігуру, падобную да васьмёркі. Самае цікавае ў ім тое, што ён, не трапіўшы ў цэль, вяртаецца да паляўнічага.

Захаванне бумеранга ў паветры тлумачыцца яго формай. У разрэзе палавіна бумеранга падобна на крыло самалёта: знізу яно плоскае, а зверху выпуклае. Апрача таго, крылы бумеранга сагнуты яшчэ і па вінтавой лініі, як прапелер (смігла) у самалёта. Сустрэчны струмень паветра абвявае крылы бумеранга. Узнікае тады пад'ёмная сіла, якая падтрымлівае бумеранг у час лёту. Таму ён трымаецца ў паветры значна даўжэй і ляціць значна далей, чым камень такой жа вагі, кінуты з той самай хуткасцю.

Бумеранг ляціць вельмі хітра, не па простай лініі, таму што ён круціцца. Не ведаючы аэрадынамікі, карэнныя жыхары Аўстраліі яшчэ за тысячы гадоў да нашых дзён змаглі прыдумаць такі дасканалы лятальны апарат.

Траекторыя лёту бумеранга залежыць яшчэ ад напрамку і сілы ветру, а таксама ад умення кідаць яго. Аўстралійскія абарыгены трэніраваліся кідаць яго з наймалодшых гадоў і так, што ён трапляў у звера ці ворага з зусім неспадзяванага боку.

Паляўнічыя Аўстраліі рабілі бумерангі з цвёрдых парод дрэва. Крылы бумеранга мелі даўжыню да паўметра і важылі некалькі кілаграмаў.




Вы таксама можаце зрабіць бумеранг. Дакладней, яго мадэль. Гэта зусім няцяжка. Вазьміце кавалак картону (можа быць карабок ад абутку) і выражце фігуру згодна з малюнкам. Зусім будзе дастаткова, калі вы зробіце крылы бумеранга даўжынёй каля пяці сантыметраў. Вугал паміж імі — каля 90 градусаў. Крылы на канцах звужаюцца. Канцы закруглены.

Цяпер трэба выгнуць крылы па вінтавой лініі, як у прапелера самалёта (як паказана на малюнку стрэлкамі). Унутраная кромка правага крыла і знешняя кромка левага крыла павінны быць адагнуты ўверх. Каб узнікаючая пад'ёмная сіла бумеранга была накіравана ўверх. Калі адагнуць берагі крылаў у адваротны бок, бумеранг будзе падаць.

Вось і ўсё. Бумеранг гатовы.

Цяпер вазьміце яго левай рукой за канец і, пстрыкнуўшы пальцамі правай рукі, па крыле, кіруйце яго ў лёт. Пасля пэўнай трэніроўкі вы навучыцеся пасылаць бумеранг туды, куды хочаце, і ён будзе да вас вяртацца.

Наша мадэль — адна з відаў бумеранга. Можна рабіць крылы рознай даўжыні, можна змяняць вугал паміж крыламі, па-рознаму можна іх загінаць. Усё гэта мае значэнне на траекторыю і лёт бумеранга.

**Паводле Г. Сцяпанава.**

# Пазнаёмімся

СССР, 163001, г. Архангельск, ул. Вологодская, д. 41б, кв. 2. Соколовой Лене.

* ✻ *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, пер. Образцовый, д. 1б, кв. 25. Василенко Вале. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.



**·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·**

Замалюй палі, азначаныя кропкай, тады даведаешся, хто чытае газету.

# Вясёлы куточак

* ✻ *

— Пошта сёння была? — спытаў бацька ў сынка.

— Была.

— А дзе ж свежыя газеты?

— Я парэзаў іх на карабельчыкі... Але, татка, ты не хвалюйся. Заўтра ж пісьманосец прынясе яшчэ больш свежыя газеты.

* ✻ *

Маці выварвае бялізну. У хату ўваходзіць шасцігадовы Васёк і пытаецца:

— Што ты, мама, варыш?

— Бялізну.

— І мая кашуля таксама варыцца?

— Так, сынок.

Васёк трошкі падумаў і заяўляе:

— Вары не вары, а сваю кашулю я ўсё роўна есці не буду!

* ✻ *

Летам да бабулі прыехаў унук. Паселі яны на снапах, гутараць, а ўнук круціцца, а потым пытае:

— Бабуля, цябе асцюкі кусаюць?

— Не.

— А чаму ж мяне кусаюць? Няўжо яны не ведаюць, што мы сваякі?



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# Начыналася ўсё так...

Нарадзілася дзіця,
Цешылася з адкрыцця:
Мовіць: „Дай" —
і ўсе бягуць
Ля калыскі — тут як тут.
Маці птушкаю ляціць —
Накарміць і напаіць.
Клапатлівая бабуля
Да яго таксама куляй:
Суне розныя прысмакі,
Многа забавак усякіх,
І ад дзеда, і ад бацькі
Найцікавейшыя цацкі.
І вось вырас карапуз —
На сям'ю ўсклаў новы груз...
На спіне сагнутай дзед
Прывалок веласіпед,
А ад цешчы — і бліны,
І фірмовыя штаны.
Ды найболей цесць прыпёр:
З-пад іголачкі „матор".
— На, зяцёк мой, „Жыгулі",
Каб дружней з дачкой жылі!..
Зяць даўно ўжо з барадой,
Ды з працягнутай рукой.
Бо засвоіў толькі: „Дай!"
Бо багаты ж родны край.
Хто ж ён! Не, ён не жабрак!...
Пачыналася ўсё так:
Нарадзілася дзіця,
Цешылася з адкрыцця:
Мовіў „Дай!" свае сынок —
Да яго сям'я ўпадскок.

**Генадзь Зотаў**



— А ты казаў, птушачка вылеціць.





Без слоў.

## АДЗІНЫ

Яна была прыгожая, разумная і гаспадарлівая. Кожны мужчына, пазнаёміўшыся, прапанаваў дастаць для яе з неба зоркі. Але яна выйшла замуж за таго адзінага, які дастаў ёй французскі кажух.

## НЕ Ў ТЫМ МАГАЗІНЕ

— Ты, Юлечка, лепшая, чым Лідачка, — кажа меншай дачцэ маці.

— А я ведаю чаму, — радасна каменціруе малая. — Ты яе купіла ў магазіне ўцэненых тавараў!

## ПЕРАВЫХАВАЛАСЯ

— Глядзі, якой стрыманай стала наша прадаўшчыца, ужо не крычыць на пакупнікоў. Можа, перавыхавалася?

— Ды не! Прастудзіла горла!

## МАЛАЙЧЫНА

Медыцынская сястра праводзіла гутарку з дзецьмі сярэдняй групы дзіцячага саду:

— Скажыце, навошта трэба мыць рукі перад ядою?

Адзін хлопчык адказаў:

— Каб лыжку не запэцкаць...



— За тры эскімо паведамляю тэлефон маёй сястры.



Настолькі любіў свае дзіцы што сам дзяцінеў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Як найлепш навучыць дзяўчыну плаваць, Бертыль?

— Ты асцярожна абымаеш яе левай рукой за талію, затым бярэш яе левую руку і моцна трымаеш, а потым...

— Дурань, гаворка пра маю сястру!

— Так бы адразу і сказаў! Сапхні яе з кладкі ў ваду!

*

— Не, я не разумею, — сказаў Карлсон, — што робіцца ў гэтай бальніцы. Калі я сюды лёг, адзін лекар сказаў, што ў мяне апендыцыт, а другі цвярдзіў, што камяні ў жоўцевым пузыры.

— Ну, і чым усё кончылася?

— Яны згулялі ў арла і рэшку і ў выніку выразалі мне гланды.

*

У турысцкай гасцініцы.

— Парцье, разбудзіце мяне заўтра а пятай раніцы.

— Добра, мсье, толькі будзьце ласкавы пазваніць мне а палове пятай, каб я, барані Божа, не праспаў.

## ПЕРАСЯДЗЕЎ

— Чаму гэта ты, дружа, так доўга на рыбах затрымаўся?

— Ды вось! Сядзеў... Чакаў, пакуль рак свісне...

— Ну, і што? Свіснуў?

— Свіснуў! Матацыкл з каляскай, а ў ёй нагавіцы з прыдаткамі...

## ПЕРАСТРАХОЎКА

— Ты чаму сядзіш на бочцы з бензінам?

— Дзеля перастрахоўкі: курыць кінуў.

З „Весніка Задрыпоніі"

## АДКРЫЦЦІ

Вучоныя ўстанавілі, што 13 чэрвеня 1771 года, замест таго, каб разбудзіць маленькага Сен-Сімона звычайным „Уставайце, граф, вас чакаюць вялікія справы!", яго слуга сказаў хлопчыку: „Годзе спаць, пане".

## ЗАЯВА

Прашу прыняць меры да старшыні рэвізійнай камісіі, які незаслужана мяне абразіў, ударыўшы ў прысутнасці сведкаў па кішэні.



Яго запаветная мара





У маму ці ў тату?

# Кур'ёзы

## РАТУНАК З ПАКАРАННЕМ

Калі дамаўласнік у Таронта Джон Топер падняў арэндную плату за кватэры, яго кватаранты страцілі цярплівасць. Ведаючы, што на шкурніка няма ўправы, яны ўзяліся за гэту справу самі: выбраўшы адпаведны вечар, заманілі яго ў падвал, адлупцавалі, заткнулі рот, надзелі наручнікі і вось так пакінулі там на начлег.

Можна здагадацца, што Топеру было не да сну. Але не толькі яму. Бо дзве яго сабакі-аўчаркі, пачуўшы, відаць, што з гаспадаром нешта здарылася, усю ноч непакоілі суседзяў выццём і гаўканнем.

Суседзі паскардзіліся ў паліцыю. Яна раніцай адшукала і вызваліла Топера з падвальнай няволі. А затым — аштрафавала на 105 долараў. За тое, што яго сабакі не давалі суседзям спаць.

## БРАМС ПРАЙГРАЎ

У мясцовай газеце горада Колдзінг (Данія) з'явілася рэцэнзія на канцэрт, якую пісаў спартыўны наглядальнік, паколькі яго калега пайшоў у водпуск: „У гарадскім канцэртным зале ігралі творы Брамса. Брамс прайграў".



Дзеці — нашы кветкі. А адкуль жа бярэцца „пустазелле"?